Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
левае крыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 27 | Год выдання 1-ы | 10 кастрычніка 1935 г. | № 27

## Усе сілы на ажыццяўленне рашэнняў партыі і ўрада аб гандлі

Рашэнні партыі і ўрада аб зніжэнні цэн на хлеб, адмене картачнай сістэмы на прадукты харчавання і рабоце спажывецкай кааперацыі на вёсцы—з'яўляюцца яркім выразам перамог нашай партыі ў справе індустрыяльнага і калгаснага будаўніцтва нашай краіны—перамог, якія далі нашай краіне вялікія рэсурсы прадуктаў і тавараў і зрабілі магчымым адмовіцца ад картачнай сістэмы і перайсці да разгорнутага савецкага гандля.

Нецяжка прасачыць цесную арганічную сувязь паміж рашэннем партыі і ўраду аб адмене картачнай сістэмы і другім вельмі важным рашэннем аб перабудове кааперацыйнага гандля. Для разварота культурнага савецкага гандля, акрамя дастатковай колькасці прадуктаў, неабходна яшчэ такая арганізацыйная перабудова тавараправодзячага апарата, якая забяспечыла-бы палепшанне работы нізавога гандлёвага звяна, у максімальнай меры стымулявала-бы ўсямернае разгортванне таваразварота і садзейнічала-бы ліквідацыі канцэлярска-бюрократычных метадаў кіраўніцтва. У гэтым і заключаецца сутнасць апошніх рашэнняў партыі і ўраду аб гандлі.

Гэтыя рашэнні ставяць перад гандлёвым апаратам рад буйнейшых і адказнейшых задач па культурнаму і хуткаму прасоўванню тавараў да савецкага спажыўца, па насычэнню гандлёвай сеці разгорнутым асартыментам тавараў і т. д.

Ход гандлю за першыя дні бескартачнай прадажы харчовых тавараў паказаў, што гандлюючыя арганізацыі БССР у асноўным справіліся з ускладзенымі на іх задачамі. Значна пашырылася рознічная сетка па гандлю мясам і інш. прадуктамі. Сама сетка атрымала больш культурны від. Асартымент тавараў стаў больш шырокім і т. д.

Але разам з гэтым, неабходна адзначыць рад недахопаў у гандлі харчовымі таварамі.

Адным з істотных недахопаў з'яўляецца адсутнасць тэхнічнай базы. Гандлюючыя арганізацыі не зусім зразумелі тое, што разварот гандлю харчовымі таварамі немыслім без ваарування магазінаў, якія гандлююць хуткапсуючыміся прадуктамі, шырокай сеткай леднікоў і складаў для хавання запасаў гэтых прадуктаў.

Па гэтаму падвядзенне тэхнічнай базы пад гандаль харчовымі таварамі становіцца важнейшай задачай гандлёвага апарата. Выявіць наяўнасць усіх леднікоў і магчымасці арганізацыі буйных складаў для хавання хутка-псуючыхся прадуктаў—такава задача гандлюючых арганізацый, якая павінна імі быць вырашана ў бліжэйшыя дні.

Гандлюючыя арганізацыі павінны таксама больш поўна задаволіць попыт спажыўца, устанавіўшы жорсткі кантроль за насычэннем гандлёвай сеткі шырокім і разнастайным асартыментам тавараў.

Апошнія рашэнні партыі і ўраду аб гандлю высоўваюць такія-ж сур'ёзныя задачы па перабудове кааперацыйнага гандля на сяле. Адначасова з ростам патрабаванняў калгаснай вёскі ўзраслі таксама магчымасці іх задавальнення. Аднак, рэалізацыя гэтых магчымасцяў у вялікай ступені затрудняецца нізкай якасцю работы кааперацыйнага апарата на сяле. Наяўная сетка кааперацыйных крам на сяле з'яўляецца надзвычайна дробнай, ні ў якой меры не задавальняючай задач разгортвання сельскага гандля. Маючыяся ў вялікай колькасці крамы з нязначным зваротам (па 30 р. у дзень на краму) не могуць забяспечыць разгорнуты асартымент тавараў, не гаворачы ўжо аб тым, што такая сетка выключае магчымасць нармальнай рэнтабельнай работы.

Акрамя таго, паасобныя звенні сельскага кааперацыйнага апарата ігнаруюць спажывецкія патрэбы абслугоўваемага насельніцтва, сабатуючы прасоўванне тавараў масавага попыта к спажыўцу. Праверкай НКУнутгандля БССР устаноўлена, што ў радзе раёнаў (Слуцк, Добруш, Мсціслаўль, Старобін і інш.) з-за паказанай вышэй прычыны былі перабоі ў гандлі соллю, спічкамі і т. д.

Побач з нездавальняючым выкананнем сваіх задач у вёсцы, спажывецкая кааперацыя згубіла свае пазіцыі і ў гарадскім гандлі. Пагэтаму ўпаўне своечасовым з'яўляецца рашэнне СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб ліквідацыі кааперацыйнага гандля ў горадзе і канцэнтрацыі ўсёй работы спажыўкааперацыі на сяле.

У гэтых мэтах рашэнні партыі і ўраду прадугледжваюць цэлы рад мерапрыемстваў па палепшанню работы спажыўкааперацыі на сяле, накіраваных у бок

упарадачэння цэн і крам на вёсцы, падвядзення трочнай фінансавай базы, арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання сельпо, узмацнення пачаткаў выбарнасці ў нізавым каапэрацыйным звяне і т. д.

Ажыццяўленне ўсіх гэтых мерапрыемстваў, прасячэнне ў корні якіх-бы то ні было спроб сабатажа ў справе прасоўвання тавараў масавага спажывання, устанаўленне жорсткага кантроля за бесперабойным гандлем гэтымі таварамі, з'яўляюцца асноўнымі шляхамі для ўмацавання гандлёвай змычкі паміж горадам і вёскай і гэтым самым—для выканання апошніх рашэнняў партыі і ўрада аб гандлі.

Гэтыя рашэнні—зусім канкрэтная праграма дзеянняў для гандлёвага апарата, якая ўвасабляе Сталінскія клопаты аб людзях.

Пагэтаму выкананне гэтых важнейшых партыйных і ўрадавых рашэнняў становіцца ганаровай справай работнікаў гандлёвага апарата. **А—Н.**

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ НКУГ БССР у першыя дні свабоднага продажу прадуктаў устанавіў нагляд за ходам гандлю як шляхам арганізацыі спецыяльных брыгад у найбольш буйных пунктах прадажы, так і шляхам заслухоўвання справаздач кіраўнікоў гандлюючых арганізацый аб ходзе гандлю.

У рэзультаце НКУГ БССР намеціў цэлы рад практычных мерапрыемстваў па знішчэнню выяўленых недахопаў.

◆ Наркамунутгандль БССР распрацаваў канкрэтныя мерапрыемствы па перадачы гарадской каапэрацыйнай сеткі ў сістэму дзяржаўнага гандля ў адпаведнасці з апошняй пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб рабоце спажывецкай каапэрацыі на сяле. У прыватнасці, для гэтай мэты пасланы ва ўсе гарады БССР адказныя ўпаўнаважаныя.

◆ НКУГ БССР вылучыў спецыяльную брыгаду для прапрацоўкі пытання аб арганізацыйных формах грамадскага харчавання ў сувязі з прадстаячай перадачай у сістэму Наркамунутгандля рада каапэрацыйных прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

◆ Наркамунутгандль БССР увайшоў у СНК БССР з праектам арганізацыі перадсвяточных кірмашаў. У гарадах намячаецца арганізацыя з 1-га лістапада 1935 г. міжраённых—кірмашаў, а ў раёнах—базараў мясцовага значэння.

Наркамунутгандлем БССР таксама распрацоўваюцца мерапрыемствы па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасных рынкаў (замашчэнне рынкаў, арганізацыя мяса і малочных—кантрольных пунктаў, чырвоных куткоў і т. д.).

◆ У пастанове аб сетцы па гандлю пісьмовымі і школьнымі прыладамі Наркамунутгандль адзначае выключна безадказныя адносіны з боку Менскага гарадскога аддзела ўнутранага гандля і кіраўнікоў гандлюючых арганізацый да гэтай справы. Горспажыўсаюзу і БАКТ'у прапанавана неадкладна абсталяваць па аднаму спецыялізаванаму магазіну, а Горунутгандлю забяспечыць неабходныя гандлёвыя памяшканні.

◆ У звязку з слаба разгорнутым гандлем гароднінай Наркамунутгандль прапанаваў усім гандлюючым арганізацыям неадкладна паведаміць аб прынятых мерах па пашырэнню сеткі па гандлю гароднінай і падрыхтоўцы да зімы, разгортванні будаўніцтва палатак, прыстасаваных да зімовага гандля на акраінах Менска. Для разгляду ўсіх матэрыялаў і канчатковага іх зацверджання створана тройка ў складзе т. т. САФ'ЯНА, ПЛОТКІНА і КАМЕНЕЦКАГА.

◆ На падставе тэлеграмы Наркома Унутранага Гандля СССР т. ВЕЙЦЕРА ўсім гандлёвым арганізацыям забаронена скарачэнне існуючай хлебнай гандлёвай сеткі як у гарадах, так і ў сельскіх мясцовасцях без спецыяльнага дазвола Наркамунутгандля БССР.

Райунутгандлі абавязаны паведамляць Наркамунутгандль аб кожным выпадку зачынення якой-небудзь адзінкі хлебнай гандлёвай сеткі.

◆ Рознічная прадажная цана папірос II гатунка, выпрацоўваемых БКС з табака III гатунка за пачку ў 25 штук устаноўлена ў размеры 65 кап. Скідка ў карысць гандлюючых арганізацый устаноўлена ў 4,9 проц.—1р. 27 к, за тысячу штук папірос.

Зацверджана прадстаўленая этыкетка для папірос II гатунка пад назвай „Победа".

◆ Устаноўлены наступныя аптова-адпускныя цэны на аўчыну чырвонай дубкі, выпрацоўваемую арцелямі Белкаапромсовета (франко-арцель—вытворчасць за 1 кв. дэцыметр у капейках): I гатунак—23,2 кап., II гатунак—20,8 кап., III гатунак 19,7 кап. і IV гатунак—18,6 кап.

◆ У сувязі з тым, што некаторыя канторы, у прыватнасці, Менская і Аршанская базы Белгандля несвоечасова разгружаюць прыбыўшыя ў іх адрас тавары, чым ствараюць прастоі вагонаў, Наркамунутгандль прапанаваў усім дырэктарам кантор звярнуць сур'ёзную ўвагу на неабходнасць своечасовай пагрузкі і выгрузкі вагонаў, забяспечыць станцыі нумарамі тэлефонаў, па якім апошнія маглі-б своечасова паведаміць аб прыбыцці тавараў, вылучыць адказных асоб за своечасовую выгрузку тавараў.

◆ Промтаварным аддзелам Наркамунутганля БССР праверана спецыфікацыя выпуска скур-галантарэйных вырабаў на IV квартал 1935 г. па фабрыцы ім. Куйбышэва, у рэзультаце чаго фабрыцы прапанавана павялічыць выпуск дамскіх сумак, увесці новыя фасоны партманэ, а таксама арганізаваць выраб школьных прадметаў (ранцы, сумкі, кніганоскі, партфелі для вучняў, рэмні для кніг і т. д.).

◆ Наркам Унутранага Гандля БССР т. ГУРЭВІЧ Н. Г. 4/Х-35 звярнуўся з водпуска і прыступіў да выканання сваіх абавязкаў.

◆ Дырэктарам Менскага Трэста Кафэ-Рэстаранаў назначан т. БАШНЕЎ.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## ПРАВІЛЫ ГАНДЛЮ ШКОЛЬНЫМІ ПІСЬМОВЫМІ ПРЫЛАДАМІ.

### 1. Агульная частка.

1. Гандаль школьнымі пісьмовымі прыладамі праводзіцца праз універмагі, магазіны культтавараў, спецыялізаваныя магазіны канцтавараў, кніжныя магазіны, спецыялізаваныя кіоскі і палаткі (пераважна пры школах і ВНУ), а таксама праз адпаведныя секцыі прамтаварных аддзяленняў змешаных магазінаў.

2. Магазіны школьных пісьмовых прылад павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка, у адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента школьных пісьмовых прылад.

3. Магазіны школьных пісьмовых прылад снабжаюцца ў цэнтралізаваным парадку праз вышэйстаячыя гандлюючыя арганізацыі і непасрэдна пастаўшчыкамі ў межах вызначаных магазіну фондаў.

Магазіны ў месцах знаходжання баз і складаў прамысловасці або вышэйстаячых гандлюючых арганізацый павінны атрымаць прылічваючыяся ім фонды пераважна шляхам непасрэднага адбора на базах і складах.

Звыш таго, гаспадарча-разліковыя магазіны абавязаны прымаць меры к атрыманню дадатковых рэсурсаў школьных пісьмовых прылад шляхам самазакупак.

4. Для больш поўнага абслугоўвання пакупніка магазіны, на падставе, вывучэння спажывецкага попыта, павінны прымаць меры к складанню і перадачы праз вышэйстаячыя арганізацыі папярэдніх заказаў прамысловасці.

Дырэктар магазіна абавязан, шляхам штодзённай праверкі наяўнага асартымента ў магазіне і на аснове запісаў прадаўцоў аб незадаволеным попыце, весці штодзённую кнігу дэфектуры і прымаць меры к штодзённаму папаўненню нехапаючых гатункаў і артыкулаў тавара.

5. Магазіны праводзяць мерапрыемствы па забяспячэнню правільнай расстаноўкі рабочай сілы і ўшчыльнення рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупніка.

У гэтых мэтах пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін, неабходна каб у гадзіны максімальнага наплывала пакупнікаў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў, змяншаючы іх колькасць у гадзіны адносна слабага гандля.

Дырэктар магазіна (аддзялення, заг. палаткай) у мэтах устанаўлення найбольш мэтазгодных гадзін гандля, павінен узгадніць гэткія з школамі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, якія знаходзяцца ў даным раёне.

6. Магазіны абавязаны забяспечыць праходжанне ўсімі работнікамі ўстаноўленага тэхмінімума і сістэматычна падвышаць іх кваліфікацыю.

7. Адказнасць за дзейнасць магазіна ў цэлым нясе дырэктар магазіна; матэрыяльную-жа адказнасць нясуць тыя асобы, якім непасрэдна перааданы пад справаздачу матэрыяльныя каштоўнасці, а таксама і дырэктар магазіна ў выпадку непрыняцця ім своечасова адпаведных мер па барацьбе з хішчэннямі, растратамі, недахопамі і т. д.

8. У адпаведнасці з правіламі, зацверджанымі пастановай Наркамунутгандля СССР ад 21 красавіка г. г. за № 284, у кожным магазіне школьных пісьмовых прылад павінна быць кніга скаргаў і прапаноў.

### II. Прыёмка школьных пісьмовых прылад.

9. Прыёмка пісьмовых школьных прылада праводзіцца дырэктарам магазіна асабіста або па яго даручэнню работнікамі магазіна.

10. Адказнасць за прыёмку нясуць тыя асобы, якія фактычна праводзяць прыёмку тавара.

11. Прыёмка школьных пісьмовых прылад павінна праводзіцца ў падсобным памяшканні магазіна, каб пазбегнуць заграмаджэння таварамі гандлёвага зала і парушання нармальнага водпуска школьных пісьмовых прылад пакупнікам.

12. Пры прыёмцы школьных пісьмовых прылад як на базе, так і ў магазінах, належыць перш за ўсё правяраць колькасць, вагу і становішча прыбываючых скрыняў і кіп, а таксама адпаведнасць іх з данымі дакументаў адправіцеляў, у прыватнасці, чоткасць маркіроўкі.

13. У тых выпадках, калі цэласць кіп і скрыняў выклікае сумненне ў прыёмшчыка, тара павінна быць ускрыта і тавар, які знахдзіцца ў ёй, павінен быць поўнасцю праверан.

Калі пры гэтым акажацца недахоп ці недобраякаснаць школьных пісьмовых прылад, якія знаходзяцца ва ўскрытай скрыні, прыёмшчык з удзелам здатчыка і прадстаўніка грамадскасці магазіна складае адпаведны акт.

14. Колькасная і якасная прыёмка школьных прылад праводзіцца ў тэрміны і ў парадку, якія прадугледжаны дагаворам з пастаўшчыком, а ў тых выпадках, дзе тэрмін і парадак прыёмкі не прадугледжаны бакі кіруюцца тэрмінамі і парадкам, прадугледжанымі для якаснай прыёмкі інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 г. (Бюлетэнь Наркамунутгандля СССР 1935 г. № 2 арт. 35).

15. У выпадку выяўлення скрытых дэфектаў, магазін абавязан неадкладна прад'явіць рэкламацыю пастаўшчыку ў адпаведнасці з інструкцыяй Дзяржарбітража пры СНК СССР ад 2 студзеня 1935 г.

Увага: Рэкламацыі прад'яўляюцца на працягу 6 месяцаў з моманту прыёмкі тавара ад пастаўшчыка.

16. Пры якаснай прыёмцы школьных пісьмовых прылад, прыёмшчык магазіна кіруецца стандартамі, тэхнічнымі ўмовамі і ўзорамі па паасобным відам школьных пісьмовых прылад.

17. Усе асобы, якія адказваюць за прыёмку школьных пісьмовых прылад, абавязаны прайсці праверачныя іспыты па ведам стандартаў і тэхнічных умоў.

18. Нестандартны і непоўнацэнны тавар у продаж ня можа быць выпушчан.

## III. Хаванне школьных пісьмовых прылад.

19. Школьныя пісьмовыя прылады павінны хавацца ў падсобным памяшканні магазіна, з тым, каб забяспечыць:

а) максімальнае скарыстанне ёмкасці падсобнага памяшкання;

б) хуткае знаходжанне таго ці іншага віда тавараў;

в) даступнасць прахода для ўчота і водпуска тавара ў гандлёвым залі магазіна;

г) папярэджанне школьных пісьмовых прылад ад псавання.

20. Падсобнае памяшканне для школьных прылад павінна быць сухое, чыстае, добра праветрываемае.

21. Хаванне школьных пісьмовых прылад у падсобным памяшканні праводзіцца на сцелажах і паліцах, якія павінны адстаяць ад падлогі і знадворных сцен не менш чым на 25 см.

22. Для ўкладкі паперы ў разгорнутым фармаце ў падсобным памяшканні будуюцца сцелажы размерам 80×110 см.

23. Для ўстанаўлення правільнай сістэмы размяшчэння школьных пісьмовых прылад і іх хуткага знаходжання, рад сцелажоў, паліц і клеткі павінны быць нанесены з адпаведнай адзнакай на даведачную карту для лепшага знаходжання ўпакаваных школьных пісьмовых прылад.

24. Пры размяшчэнні ўпаковачных школьных прылад неабходна сачыць за тым, каб уноў прыбываючая партыя не закрывала раней прыбыўшай партыі тавара.

## IV. Водпуск школьных прылад.

25. Гандлёвы зал магазіна абсталёўваецца шафамі і прылаўкамі. Для выгады пакупнікоў уздоўж сцен свабодных ад прылаўка, устанаўліваюцца дываны і столікі.

26. У гандлёвым залі тавары павінны быць размешчаны такім чынам каб увесь асартымент тавараў, які знаходзіцца ў магазіне, знаходзіўся блізка ад прадаўца.

27. Кожны гатунак тавара павінен мець сваё строга-пэўнае і сталае месца ў шафе і на паліцах мець адпаведную таблічку з найменаваннем тавараў.

28. Паліцы верхняй часткі шафаў прызначаюцца для беловых тавараў (вырабы з паперы).

Вадкія тавары ў флаконах (клей, туш, чарнілы і інш.) абавязкова распалагаюцца ці ў закрытай шафе ці на ніжніх паліцах для папярэджання затока вадкасцю іншых тавараў у выпадку боя.

29. Для інфармацыі пакупніка аб наяўнасці ў магазіне школьных пісьмовых прылад дырэктар магазіна абавязан выстаўляць на ўнутранай і знадворнай вітрыне ўзоры тавараў, якія ёсць у прадажы магазіна, кіруючыся пры гэтым правіламі абсталявання і ўтрымання вітрын у гандлёвых памяшканнях, зацверджаных Наркамунутгандлем СССР 3 ліпеня 1935 г.

30. У вітрынах гандлёвага зала размяшчаюцца лепшыя і больш каштоўныя вырабы—перачынныя нажы, аўтаматычныя алоўкі, запісныя кніжкі, блакноты ў скуры, вечныя ручкі, гатавальні, лагарыфмічныя лінейкі і інш.

31. На выстаўляемых узорах тавараў абавязкова павінны быць ярлыкі з паказаннем рознічных цэн.

32. Продаж школьных пісьмовых прылад праводзіцца па ўстаноўленых намінальных цэнах.

За павышаныя цэны, а таксама за спекуляцыю школьнымі пісьмовымі прыладамі, вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці ў крымінальным парадку.

33. Для забеспячэння кантроля пакупніка за ўстаноўленымі цэнамі на школьныя прылады, на відных месцах у магазіне, у прыватнасці на шкле налічнікаў (на прылаўках) павінны быць прэйскуранты рознічных цэн.

34. Магазін абавязан мець поўны асартымент школьных пісьмовых прылад і прадстаўляць поўную магчымасць пакупніку азнаёміцца з усім асартыментам, які ёсць у магазіне.

35. У дні вялікага попыта (у пачатку вучэбнага года, у дні заліковых сэсій) трэба мець запас школьных пісьмовых прылад і ў такой колькасці, каб бесперашкодна адпускаць іх пакупніку.

Дырэктар магазіна абавязан сістэматычна сачыць за напружанасцю патока пакупнікоў, неадкладна прымаючы меры к ліквідацыі і рассасванню чаргоў, у прыватнасці:

а) забяспечваючы ўсе рабочыя месцы роўнай колькасцю тавараў, на якія прад'яўляецца найбольшы попыт.

б) накіроўваючы паток пакупнікоў раўнамерна да ўсіх рабочых месц;

в) вызначаючы, акрамя таго, аднаго прадаўца для водпуска прадмета, які выключна запытваецца ў даны момант.

36. Прадавец абавязан аказваць пакупніку неабходную садзейнасць пры выбары ім школьных пісьмовых прылад (№ алоўка, № пяра, якасць паперы і інш.), азнаёмліваючы яго з якасцю і цаной пакупаемых вырабаў.

37. У выпадку адсутнасці ў магазіне патрабуемага пакупніком гатунка тавара, прадавец абавязан прапанаваць пакупніку другі гатунак, які мог-бы замяніць гатунак, які адсутнічае.

38. Учот спажывецкага попыта ў магазіне павінен весціся абавязкова кожным прадаўцом непасрэдна на рабочым месцы, шляхам занясення ў спецыяльны сшытак запісаў:

а) заўвагі і пажаданні пакупнікоў у адносінах якасці і іх патрабаванні ў частцы гатунковых адзнакаў тавараў;

б) усе выпадкі незадаволенага магазінам попыта.

Учот попыта павінен весціся таксама дырэкцыяй магазіна, шляхам выяўлення праз адміністрацыю школ і ВНУ данага раёна патрэбнага асартымента і колькасці школьных пісьмовых прылад.

39. Выдача школьных прылад пакупніку праводзіцца непасрэдна прадаўцом. Уплата грошай пакупніком праводзіцца таксама непасрэдна прадаўцу, які абавязан падлік кошта пакупкі праводзіць голасна, каб ён быў зразумелым школьніку пакупніку.

40. Школьныя пісьмовыя прылады павінны адпускацца пакупніку абавязкова ва ўпакованым відзе.

41. Прадаўцы павінны быць далікатны з усімі пакупнікамі.

## V. санітарнае ўтрыманне магазіна.

42. Магазіны, у якіх праводзіцца продаж школьных пісьмовых прылад павінны ўтрымлівацца ў поўнай чыстаце.

43. Прадаўцы павінны быць чыстымі і акуратнымі.

44. Не радзей аднаго раза у пяць дзён павінна праводзіцца агульная ўборка ўсіх гандлёвых і падсобных памяшканняў.

Псаванне ці забруджванне школьных пісьмовых прылад, а таксама застаўленне на іх слядоў ці бруду, не дапускаецца.

45. Штоквартальна мясцовым дэзбюро павінна праводзіцца дэзінфекцыя ўсяго абсталявяння, прылаўкаў; паліц і т. д.

Барацьба з насякомымі і грызунамі павінна праводзіцца стала па мерах выяўлення.

46. У магазінах павінна быць вывешана аб'ява на відных месцах аб забароне курыць, плявацъ і брудзіць.

У магазінах павінна быць устаноўлена дастатковая колькасць урнаў.

47. Для работнікаў магазіна павінен быць устаноўлен умывальнік і набыты мыла і чыстыя ручнікі.

48. Уваход за прылаўкі пабочным асобам забараняецца.

## VI. Правілы ўнутранага распарадка.

49. Гадзіны гандля гандлёвых прадпрыемстваў устанаўліваюцца пастановай Выканкомаў, у залежнасці ад мясцовых умоў.

50. Допуск пакупнікоў у магазін спыняецца за 15 мінут да яго зачынення. Усім-жа пакупнікам, якія знаходзяцца ў магазіне, школьныя прылады павінны быць адпушчаны бесперашкодна.

51. Аб часе спынення допуска пакупніка ў магазін павінна быць вывешана аб'ява буйным шрыфтам пры ўваходзе ў магазін.

52. Гандлёвыя арганізацыі, у сістэму якіх уваходзяць магазіны школьных пісьмовых прылад, павінны прыняць меры к таму, каб гэтыя правілы гандлю, школьнымі пісьмовымі прыладамі былі даведзены да ведама работнікаў магазіна або яго секцыі школьных пісьмовых прылад.

53. Гэтыя правілы ўступаюць у сілу з 1-га кастрычніка 1935 г.

---

# Разгарнуць паўсямесны гандаль высокагатунковым пшанічным хлебам

## ПАСТАНОВА

### Народнага камісарыята унутранага гандля БССР і ўпаўнаважанага камітэта загатовак пры СНК СССР па БССР.

1 кастрычніка 1935 г. **№ 662.** г. Менск.

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля т. ВЕЙЦЕРА і Камітэта загатовак СНК т. ЗЛОБІНА ад 30 верасня 1935 г. за № 13482, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР і Упаўнаважаны Камітэта загатовак пры СНК СССР па БССР пастанаўляюць:

1. Дазволіць выпечку і продаж пшанічнага хлеба весавога з мукі пшанічнай 75% памола (рознічная цана 2 р. 80 к. за кгр.) і з мукі 30% памола (рознічная цана 4 р. 20 к. за кгр.) паўсямесна ва ўсіх гарадах і раённых цэнтрах БССР.

2. Прапанаваць Белкаапсаюзу па лініі Белпромхлеба па яго 11 хлебазаводам і па лініі аддзела нетрэсціраванага хлебапячэння па ўсіх астатніх хлебапякарнях у пунктах, дзе выпечка і продаж высокагатунковых вырабаў ужо дазволена, — безадкладна ўвесці па тэлеграфу выпечку паказаных двух новых гатункаў пшанічнага весавога хлеба.

3. Прапанаваць Белкаапсаюзу па лініі нетрэсціраванага хлебапячэння затрэбаваць па тэлеграфу звесткі з усіх астатніх пунктаў, дзе выпечка і рэалізацыя вырабаў высока-гатунковых да гэтага часу яшчэ не была дазволена, аб магчымасці выпечкі гэтых новых гатункаў і аб тэрміне, у які гэта выпечка можа быць арганізавана з тым, каб прыступіць да выпечкі ў новых пунктах на працягу не пазней 12 дзён.

4. Абавязаць Гор. Райунутгандлі на мясцох забяспечыць хутчэйшую арганізацыю выпечкі новых гатункаў хлеба і рэалізацыю іх праз гандлёвую сетку.

5. Прапанаваць Белхарчпромсаюзу і Белкаапінсаюзу на сваіх пякарнях правесці тыя-жа мерапрыемствы, якія прадугледжаны для нетрэсціраванага хлебапячэня п. п. 2 і 3 гэтай пастановы.

6. Для хлеба з мукі 75 проц. памола кіравацца зацверджаным стандартам на гэты хлеб.

Для хлеба з мукі 30 проц. памола ўперад да зацверджання стандарта, кіравацца наступным:

а) па тэхнічных адзнаках прытрымлівацца тых, якія ўстаноўлены для сітнага хлеба з ізюмам;

б) па фізіка-хімічных паказчыках: вільготнасць мякіша—43 проц., кіслотнасць мякіша—не больш 3 градусаў, порыстасць—75 проц.

7. Даручыць Заготзбожжа, па меры патрэбы, у перабросцы мукі 30 проц. і 75 проц. памола ў новыя пункты, дзе мука не звезена, правесці па ўказанню Наркамунутгандля адгрузку дробнымі партыямі.

Упаўнаважаны Камітэта Загатовак
СНК СССР па БССР
**С. ГВАЗДЗЕЦКІ**

Нам. Наркома Унутранага Гандля БССР
**І. ВЕРБА**

# ЦЭНЫ

## Гандлёвыя скідкі на хлеба-булачныя і харчовыя тавары

### ГОР. РАЙУНУТГАНДЛЯМ, ГАНДЛЮЮЧЫМ І ХЛЕБАВЫПЯКАЮЧЫМ АРГАНІЗАЦЫЯМ.

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 726 паведамляем, што часова ўстаноўлена наступная скідка ў карысць гандлюючых арганізацый па продажу хлеба-булачных вырабаў:

**На хлеба-булачныя вырабы з мукі 85 проц. памола.**

По хале плеценай . . . . . . . . . 17 кап. на кг.
Французскім булкам . . . . . . . 13 „ „ „
Сухарам ванільным . . . . . . . . 40 „ „ „
„ гарадскім і кафейным . . . 31 „ „ „
Булачнай мелачы . . . . . . . . . . 20 „ „ „
Па сушкам розным, баранкам розным
і баранкам простым . . . . . 27 „ „ „

**Па хлеба-булачным вырабам з мукі 75 проц. памола.**

Па французскім булкам . . . . . . 18 кап. на кг.
Здобе венскай . . . . . . . . . . 32 „ „ „
Хале плеценай . . . . . . . . . . 22 „ „ „
Сітнаму з ізюмам . . . . . . . . . 13 „ „ „
Па баранкам простым і бублікам . . 37 „ „ „

**Па хлеба-булачным вырабам з мукі 30 проц. памола**

Па французскім булкам . . . . . . 36 кап. за кг.
Хале плеценай . . . . . . . . . . 36 „ „ „
Сітнаму з ізюмам . . . . . . . . . 18 „ „ „
Здобе венскай . . . . . . . . . . 40 „ „ „
Па сушкам розным, баранкам сахарным . . . . . . . . . . . . . 54 „ „ „

Нам. Народнага Камісара Ўнутранага гандля БССР
**І. ВЕРБА**

---

### ГОР. РАЙУНУТГАНДЛЯМ, ГАНДЛЮЮЧЫМ І ЗБЫТАВЫМ АРГАНІЗАЦЫЯМ.

Паведамляем, што на падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 13508, з 1-га кастрычніка 1935 г. устанаўліваюцца наступныя гандлёвыя скідкі з устаноўленых адзіных рознічных цэн пры водпуску тавараў збытавымі арганізацыямі і прадпрыемствамі хлебапячэння гандлюючым арганізацыям:

Па хлебу жытнаму . . . . . . . . . 7,5 кап. на кг.
„ „ пшанічнаму 96 проц. памола 7,5 „ „ „
„ „ „ 85 „ „ 9 „ „ „
„ „ „ 75 „ „ 15 „ „ „
„ „ „ 30 „ „ 25 „ „ „
„ крупе, бабовым і рысу . . . . . . . 8 проц.
„ макаронам . . . . . . . . . . . . . 6 „
„ муке жытнай, кукурузнай, ячменнай, грэчневай, пшоннай, аўсянай і гарохавай 5 „
Па муке пшанічнай 96 проц. памола . . . 4,45 „
„ „ „ 85 „ „ . . . 3,96 „
„ „ „ 75 „ „ . . . 4,84 „
„ „ „ 30 і 10 „ „ . . . 4,7 „
„ маслу жывотнаму . . . . . . . . . . 790 „
„ „ расліннаму . . . . . . . . . . 9,0 „
„ маргарыну . . . . . . . . . . . . . 8,5 „
„ мясу, жырам жывотным і бітай птушцы 6,77 „
„ „ „ „ для спецсеткі дадаткова . . . . . . . . . . . . 1,04 „
Па каўбасным вырабам і мясакапчонасцям . 7,3 „
„ цукру для горада . . . . . . . . . . 5,4 „
„ „ „ сяла . . . . . . . . . . . 7,3 „
„ „ „ спецсеткі па гораду дадаткова . . . . . . . . . . . . . . . 0,33 „
„ рыбтаварам для горада . . . . . . 14,5 „
„ „ „ спецсеткі дадаткова . . 2,0 „
(для сяла будзе паведамлена дадаткова)
Па кансервам мясная тушонка і курынае філе 7,0 проц.
„ астатнім мясным і мясарасліным і свінабабовым кансервам . . . . . . . . 9,0 „

Поўаптовыя магазіны пры водпуску прадуктаў дробным оптам дзяржаўным, грамадскім і зачыненым установам робяць скідкі з устаноўленых адзіных рознічных цэн у размеры 50 проц. гандлёвай скідкі ўстаноўленай для адпаведнага тавара.

Гэтая скідка поўаптовых магазінаў не распаўсюджваецца на крупу, макароны, рыс, бабовыя і хлеба-фураж, на якія захоўваецца ўстаноўленая дробна-аптовая накідка ў размеры 1 проц.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР
**І. ВЕРБА.**

---

## Рознічныя цэны на каўбасу Белмясапрамтрэста з субпрадуктаў

### ПАСТАНОВА

**Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР**

28 верасня 1935 г. **№ 654** г. Менск

Народны Камісарыят Унутранага гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

Устанавіць рознічныя цэны на каўбасныя вырабы шырспажыва, выпрацоўваемыя прадпрыемствамі Белмясапрамтрэста (у руб. і кап за кгр.)

| | Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| 1. Ліверная мюнхенская III гатунак | 3 | 40 |
| 2. Літоўская паўкапчоная III гатунак | 4 | 40 |
| 3. Зельц галоўн. чырвоны II гатунак | 5 | — |
| 4. „ шэры . . . . . . . . . | 5 | 60 |
| 5. Студзень I гатунак . . . . . | 3 | — |
| 6. II „ . . . . . . | 1 | 90 |
| 7. Чэснаковы III гатунак . . . . . | 2 | 85 |
| 8. Ліверная кроліч . . . . . . . | 9 | — |
| 9. Мясараслін. ліверн. . . . . . . | 2 | — |
| 10. Грыцвурст крывяны II гатунак . | 2 | 30 |
| 11. Казанская . . . . . . . . . | 2 | 40 |
| 12. Крымская . . . . . . . . . | 3 | 85 |
| 13. Казакстанская . . . . . . . | 5 | 50 |

Устаноўленыя новыя цэны ўвесці з 1-га кастрычніка 1935 года.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР
**І. ВЕРБА.**

# Прейскурант единых отпускных цен на чулочно-носочные изделия государственной союзной трикотажной промышленности.

| №№ п/п. | Артикул | Наименование изделий | Основное оборудование | Волокно и № пряжи | Отпускная цена за десяток пар в рубл. и копейках |
|---|---|---|---|---|---|
| | | **А. Чулки женские.** | | | |
| 1 | 9 | Чулки женские . . . . . . . . . . . | Автомаш 14 кв. | Хл. бум. № 32/2 | 18—50 |
| 2 | 11 | " " . . . . . . . . . . . . . | " 16 кв. | " 38/2 | 22—00 |
| 3 | 13 | " " . . . . . . . . . . . . . | " 18 кв. | " 50/2 | 34—00 |
| 4 | 14 | " " мерсериз . . . . . . . . | " " | " " | 37—00 |
| 5 | 15 | " " . . . . . . . . . . . . . | " 20/22 | " 60/2 | 37—00 |
| 6 | 16 | " " мерсериз . . . . . . . . | " | " 60/2 | 42—00 |
| 7 | 23 | " " . . . . . . . . . . . . . | " 18—20 | Вискоз. 200 д. | 35—00 |
| 8 | 24 | " " . . . . . . . . . . . . . | 20—24 | " 150 | 38—00 |
| 9 | 32 | " " . . . . . . . . . . . . . | Каттон 33—36 г. ч | Хл. бум. 50/2 | 70—00 |
| 10 | 34 | " " . . . . . . . . . . . . . | " 39 т. ч | " 80/2 | 85—00 |
| 11 | 35 | " " мерсериз . . . . . . . . | " " | " " | 95—00 |
| 12 | 38 | " " со стрелкой . . . . . . | | | 105—00 |
| 13 | 39 | " " мерсеризов. . . . . . . | " 39 г. ч. | " 80/2 | 95—00 |
| 14 | 41 | " " со стрелкой . . . . . . | " | Вискоз. 150 д. | 100—00 |
| 15 | 43 | Чулки женские со стрелкой . . . . . . | Каттон 39 г. ч. | Вискоз 150 д. | 125—00 |
| 16 | 45 | " " " . . . . . . . . | " " | натур. шелк | 150—00 |
| | | **Б. Носки мужские.** | | | |
| 17 | 61 | Носки мужские гладкие . . . . . . . | Автомаш. 8 кл. | Хл. бум. | 15—00 |
| 18 | 65 | " " . . . . . . . | " 11 " | " 24/2 | 21—00 |
| 19 | 67 | " " . . . . . . . | " 13—15 | " " | 17—00 |
| 20 | 69 | " " . . . . . . . | " " | " " | 18—50 |
| 21 | 82 | " " рисунчатые . . . . . . | " 18 | " 60/2 | 47—00 |
| 22 | 85 | " " " . . . . . . . | " 20 | " 100/2 виск. | 55—00 |
| 23 | 161 | " " женские . . . . . . | " 20 | " Хл. бумаж. | 36—00 |
| 24 | 162 | " " . . . . . . . | " | " | 13—50 |
| 25 | 163 | " " . . . . . . . | " | " | 25—00 |

## В. Чулки и носки детские.

| №№ п/п. | Артикул | Наименование изделий | Основное оборудование | Волокно и № пряжи | Размеры и отпускная цена в рубл. и коп. за десяток пар | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 0 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 26 | 102 | Чулки детские | Автомаш. 13—14 | Хл. бум. 20 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14—50 | 16 | 17—50 | 19—00 |
| 27 | 103 | " " | " " | " 24/2 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14—50 | 16 | 17—50 | 19—00 |
| 28 | 106 | Носки " | " " | " 20 | — | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13—50 | 15 | 16—50 | 18—00 |
| 29 | 107 | " " | " 14 | " 24 | — | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13—50 | 15 | 16—50 | 18—00 |
| 30 | 110 | " с отворотом детск. | " " | " " | — | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14—50 | 16 | 17—50 | 19—00 |
| 31 | 115 | Носки детские | " " | шелковые | — | 16—50 | 18 | 19—50 | 21 | 22—50 | 24 | 28—50 | 27 | 28—50 | 30 |
| 32 | 116 | " " | " " | хл. бумажн. | — | 11—50 | 13 | 14—50 | 16 | 17—50 | 19 | 20—50 | 22 | 28—50 | 25 |
| | 104 | Чулки " | | Шерсть | — | — | — | — | — | — | — | 47—00 | 50—00 | — | — |
| | 109 | Носки " с цвет. каймой | | х/б № 32 | — | 8—00 | 9—00 | 10—00 | 11—00 | 12—00 | 13—00 | 14—50 | — | — | — |

ПРИМЕЧАНИЕ: Чулки и носки из вискозы с набивкой на 3 руб. за 1 десяток дороже. К соответствующему артикулу набивных изделий представляется буква „И".

Размер торговой накладки на единую отпускную цену установлен. для горада в 7% для села—10%.

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа.

Соки клюквенные в любом количестве по 24 р. 30 к. за декалитр. Тоже брусничные—25 р. 20 к., соки яблочные—10 000 декалитров—18 р. декалитр., франко-станция отправления. Расчет акцептом.

Тесто яблочное—50 тонн—1150 р. тонна, тесто брусничное—20 тонн 1443 руб. тонн. Франко-склад артели Витебск. Расчет акцептом.

Клюква—50 тонн, по ценам прейскуранта СТО. Расчет путем платежных перечислений в Полоцком Госбанке на протяжении 5 дней после составления приемо-сдаточных актов.

Халва, мармелад, пастила натуральная, по ценам, утвержденным НКВТ, расчет акцептом.

Томат-пюре и томат-паста в неограниченном количестве, расчет акцептом.

Капуста квашенная—55 тонн—260 р. тонна, расчет акцептом.

### Промтоварная группа.

Чуни веревочные—20 тыс. пар—3 р. 50 к. пара, франко-склад артели, расчет акцептом.

Веревки из льняных отходов—5 тонн—2640 р. тонна, расчет акцептом.

Ранцы ученические—200 штук—9 р. 25 к. штука, расчет акцептом, франко-склад продавца.

Платья детские без рукавов трикотажные—11000 штук № 1 по 3 р. 07 к. штука и 2000 штук № 2—3 р. 17. к. и № 3—3 р. 27 к.

Пояса шелковые—10 000 штук—2 р. 85 к. за штуку.

Тесьма черная—10 000 метров—20 коп. за метр., франко-производство; расчет—25 проц. аккредитивом и остальные акцептом.

Гуталин в стеклянной посуде—3 р. 30 к. за дюжину, расчет акцептом.

### Лесохимическая группа.

Колесная мазь-галипотная—500 тонн—433 р. тонна, франко-вагон станция отправления.

Деготь химический искусственый—300 тонн—500 р. тонна, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

Торфяная смола—3000 тонн 120 р. тонна.

Хлорная известь—10 тонн—180 р. тонна, франко-склад продавца. Расчет акцептом.

Жир технический в неограниченном количестве—3 р. 88 к. *кгр.*

### Тара.

Корзины багажные—63 см.—500 штук—15 р. 05 к., 72 см.—200 штук по 16 р. 74 к. и 90 см.—100 штук—26 р. 72 к. Расчет акцептом.

Ящики тарные плетенные по 3 р. 80 к. за комплект.

Пробки бутылочные деревянные березовые—34.000 штук—30 р. за тысячу, расчет акцептом.

Корзины под хим. балоны—30 тыс. штук—2 р. 30 к. штука—франко-производство, расчет акцептом.

### Хозяйственные товары.

Талеги крестьянские—100 штук по 244 р. и дробинки—20 штук 285 р., расчет акцептом.

Розетки деревянные разных размеров по 70 р. за тысячу, франко-станция отправления. Расчет акцептом.

Спица дубовая колотая—50.000 штук—16 р. 67 к. за 100 штук, франко-склад.

Обычайка сосновая—250 коп.—33 р. копа, франко-склад.

Дрань штукатурная—500.000 штук—20 р. 51 к. за тысячу штук.

## Спрос товаров.

Белила свинцовые, тоже цинковые, охра золотистая, сурик свинцовый, ультрамарин, краска эмалевая, разные лаки, анилиновые краски, москательные товары, клей столярный, кислота соляная, тоже серная, наждачное полотно, наждачная бумага, пемза натуральная, сода каустическая, воск пчелиный, толь кровельный, фанера листовая, стекло оконное, кисти малярные, канифоль, шпагат, картон, обои, гипс, известь, мел.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1114. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2944.